 


# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 32 (650) ГОД XIII 11 ЖНІЎНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

### ФЕСТЫН БГКТ

Не было добрай пагоды 28-га ліпеня ў Семяноўцы. І таму фестын БГКТ прысвечаны 50-ай гадавіне Камуністычнай партыі Польшчы і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі не мог адбыцца ў падрыхтаваным ужо традыцыйным месцы школьнага панадворку. Урачыстасць фестыну была перанесена ў мясцовую святліцу. Адкрыў яе старшыня прэзідыума ГРН у Семяноўцы Міхась Васілюк. Аб дзейнасці КПП і КПЗБ чытаў даклад старшыня Гайнаўскага аддзела беларускага таварыства Аляксандр Іванюк. У мастацкай частцы выступала Гайнаўская эстрада, якой мастацкім кіраўніком з'яўляецца Віталіс Макац. Канферансье быў А.Саўчук. Пасля канцэрта адбыўся паказ моды, пасля якога да позняй ночы працягвалася танцавальная вечарына.

Па-суседску са святліцай, у школе была арганізавана кніжная латарэя і выстаўка радыёпрыёмнікаў, халадзільнікаў і шмат іншых тавараў, якімі дыспануе нараўскі ГС. А фестын быў добра забяспечаны харчовымі прадуктамі, а нават марожаным.

Арганізатарамі фестыну былі аддзел БГКТ у Гайнаўцы, павятовае праўленне ЗМВ, ГРН у Семяноўцы, кіраўніцтва мясцовай школы і ГС у Нараўцы.

У фестыне між іншым узялі ўдзел члены прэзідыума ГП БГКТ Мікалай Самоцюк і Кастусь Майсеня, а таксама старшыня Павятовага праўлення ЗМВ Антоні Кандрат.

### У БЕЛЬСКІМ АДДЗЕЛЕ

Бельскі аддзел БГКТ арганізаваў 23 чэрвеня ў Вольцы Выганоўскай фестын прысвечаны 50-ай гадавіне КПП і КПЗБ. Урачыстасць была спалучана з прысваеннем мясцовай школе імя героя Савецкага Саюза Міколы Кужыльнага, які загінуў у Вольцы ў час яе вызвалення ад нямецкіх захопнікаў. У гэтай урачыстасці бралі ўдзел: брат і маці загінуўшага савецкага воіна. У мастацкай частцы ў гэты дзень выступаў харавы калектыў Бельскага аддзела і самадзейнікі школы ў Вольцы Выганоўскай.

*

Бельскі харавы калектыў супольна з эстрадай ГП «Лявоніхай» нядаўна выступаў у Орлі, дзе кожны нумар праграмы ўзнагароджваўся доўгімі воплескамі.

Зараз бельскі калектыў атрымаў запрашэнне на выступленні з канцэртам у Нараўцы.

*

Праўленне Бельскага аддзела БГКТ для свайго харавога калектыву арганізавала аўтакарам з Рашарні экскурсію ў Аўгустова. Экскурсанты з вялікім зацікаўленнем прыглядаліся агульнапольскім спаборніцтвам лыжной язды па вадзе. Яны таксама аднеслі шмат прыемных уражанняў з паездкі параходам па прыгожых возерах Аўгустоўшчыны.

*

Бельскі харавы калектыў распачаў на пачатку жніўня рэпетыцыі пад кіраўніцтвам новага дырыжора — Аляксандра Лукашука.

(мх)



Над рэчкай Нарвай. Фота: Ул. Паўлючук

На тэмы летняй акцыі

# ПЕРАД ПАДСУМАВАННЕМ

Незадоўга кончацца канікулы. Моладзь і дзетвара вернецца ў школьныя парты. У адміністрацыйных штабах пачнецца падсумаванне т. зв. летняй акцыі. Падсумаванні адбываюцца кожны год, але паколькі гэта адбываецца пасля «акцыі», а наступная будзе аж за год, не замнога тут бывае прапаноў, а тыя, якія і ёсць, часта астаюцца нявыкарыстанымі. У сувязі з вышэй выражанымі думкамі хочацца некалькі слоў сказаць аб летняй акцыі перад яе афіцыйным падсумаваннем.

У Бельскім павеце разгорнута шырокая праца вакол справы арганізацыі вясковых дзяцінцаў на час палявых работ. Справа вельмі важная, калі не найістатнейшая ў летняй акцыі. Чаму так важная, хіба нікога не трэба пераконваць. Аддзел асветы ў канцы красавіка г.г. склікаў вялікую нараду ў гэтай справе. Запрошана прадстаўнікоў аж 14 установаў і арганізацый з Бельска, а таксама прадстаўнікоў з ваяводскага цэнтра. У нарадзе прынялі ўдзел прадстаўнікі толькі 5 устаноў і арганізацый Бельска і 3 прадстаўнікоў з ваяводскага цэнтра. Можна сказаць, што якраз тыя, якія прыймаюць удзел у гэтага тыпу нарадах кожны год. У пратаколе з нарады чытаем: «Нарада выказала недахоп зацікаўлення арганізацыяй апекі над вясковымі дзяцьмі з боку прадпрыемстваў і ўстаноў працуючых для сельскай гаспадаркі і абапіраючыхся аб яе».

Не ўсюды там, дзе планавалася, адкрыліся дзяцінцы. У Аддзеле асветы ў Бельску гавораць, што гэта вынікае з недахопу зацікаўлення вясковай грамадскасці гэтай формай апекі над дзяцьмі. Як прыклад падаецца тут жыхараў такіх вёсак як: Мулявічы, Нурэц, Фалькі ці Катлы, якія адмовіліся арганізаваць дзяцінцы. Можна гэта і так каменціраваць, тут няма нічога нелагічнага. Аднак хацелася б запрапанаваць нешта іншы каментарый. Можна сказаць і так, што ў **вышэй прыведзеных вёсках таму няма зацікаўлення дзяцінцамі, што ў павеце прадстаўнікі 9 устаноў і прадпрыемстваў не захацелі прыйсці на нараду выказваючы ў гэтым сваю бесцікаўнасць.** Калі не ўдалося зацікавіць такіх ус-

(Працяг на стар. 5)

# РАЗМОВА З «ПЭСІМІСТКАЮ»

Культура — гэта амаль усё, што датычыць чалавека. Гэта нашыя паводзіны ў кантакце з іншымі людзьмі, нашыя зацікаўленні, гэта мастацтва, веды, спосаб адпачынку, эстэтыка нашага акружэння, стыль працы і стыль жыцця. Усе гэтыя справы ў павеце даручаны аддзяленням культуры Аддзелаў асветы і культуры павятовых рад нарадовых. Працуе ў іх па адной або па дзве асобы, найчасцей жанчыны, якіх улады баяцца дапускаць да кіравання іншымі галінамі жыцця. Культурай кіраваць жанчын дапускаюць. Гэта ўся павятовая ўлада ад культуры, якая кіруе яе развіццём у павеце.

Кіраваць культурай — справа аднак не простая. Праблемы сельскай гаспадаркі, прамысловасці ці гандлю ўсім больш-менш ясныя і відавочныя. Не тое з праблемамі культуры. Крыюцца яны замала для ўраднікаў відавочнымі жэстамі, размовамі, лаянкамі і праклёнамі людзей, за інтымным светапоглядам, эмоцыямі і ўяўленнямі. Як тады выявіць прагрэс у гэтым усім, як змераць змены вясковай культуры ды змясціць у рубрыках урадніцкіх справаздач?

Аптымісты цвердзяць, аднак, што на ўсё ў свеце ёсць нейкая рада. Аптымісты ад культурных праблем звялі справы павятовай культуры да колькасці драматычных турткоў, святліц са штатнымі светліцовымі, ды розных конкурсаў і аглядаў. Усё гэта лёгка змераць, падлічыць ды надаць форму ўрадніцкіх актаў.

Кіраўнік Аддзялення культуры ў Гайнаўцы Мар'я Ангельчык не з'яўляецца аптымісткай. Таму размова з ёю стаецца цікавай.

— Асноўных прынцыпаў, — гаворыць пані Мар'я Ангельчык, — якія ставім перад сабою ў культурнай дзейнасці ў павеце ёсць два: Па-першае — не накідваць раней прынятых форм дзейнасці людзям, а адказваць на іх зацікаўленні, забяспечваць іх патрэбы ў галіне культуры і адукацыі, паглыбляць іх добрыя, карысныя звычкі і мясцовыя традыцыі. І другі прынцып — перасычванне гэтага ўсяго зместам, які вынікае з выхаваўчых мэт палітыкі партыі і ўрада.

**— Што аднак перашкаджае ў рэалізацыі гэтых прынцыпаў?** — пытаем.

— Многае, — адказвае пані Мар'я. — Перш за ўсё аднак недахоп адпаведных людзей. Каб ведаць запатрабаванні асяроддзя, трэба хацець і ўмець гэтым цікавіцца. Трэба мець, скажам, нейкую сацыялагічную падрыхтоўку. З другога боку, каб умець забяспечыць гэтыя запатрабаванні, трэба ведаць культуру, якую будзем пераносіць у павятовае, найчасцей сялянскае асяроддзе. Словам — трэба быць чалавекам адукаваным. Да працы ў культуры сярэдняя адукацыя з'яўляецца зусім недастатковай, а мы часта вымушаны прымаць да працы ў культуры людзей толькі з пачатковай адукацыяй.

**— Што аднак знеахвочвае адукаваных людзей да працы ў бібліятэках, святліцах, клубах, грамадскіх цэнтрах культуры? Ці надта малыя заработкі?**

— Не толькі. Заработкі тут не такія зноў малыя. Кіраўнік грамадскага цэнтра культуры зарабляе больш-менш толькі што і настаўнік, гэта значыць 1550 злотых. Знеахвочвае характар працы і адносіны да працаўніка культуры як самога цэнтра, так і адпаведных устаноў і ўлад. Характар культурнай дзейнасці, як ведаецц, такі, што яе сапраўдныя эфекты мала відавочныя, значна менш эфектыўныя, чымсьці вынікі працы настаўніка, якія бачым у штогадовых выпусках выхаванкаў. Затым народ не прывык адносіцца да дзеяча культуры з належнай пашанай, як, скажам, да настаўніка. Наадварот, у адносінах да маладой светліцовай моладзь часта паводзіць сябе вульгарна і непрыстойна. Затым дзеяча культуры ацэньвае шмат розных устаноў, якія, як след, лаюць яго за малыя эфекты працы, за хуліганства ў вёсцы, за п'янства і за што толькі хочаш. У выніку працаўнікі культуры затрымліваюцца пры гэтай працы коратка і вельмі часта змяняюцца. Так, напрыклад, ужо ў гэтым годзе змянілася ў нас двух кіраўнікоў грамадскіх цэнтраў культуры, двух светліцовых і трох бібліятэкараў.

**— Ці маглі б вы аднак падаць прыклад культурнай установы ў вашым павеце, якая вядзецца згодна з вашымі прынцыпамі культурна-асветнай дзейнасці?**

— Так, гэта перш за ўсё святліца ў Белавежы, якую дасканала вядзе ўжо 10 гадоў пані Анна Байко?

**— Ці маглі б вы расказаць дакладней аб яе працы?**

— Магла б, але лепш паедзьце, ды пабачце самі.

**— Дзякуем, паедзем.**

Развітваюся з сяброўкай Мар'яй Ангельчык з аптымізмам. Аптымізм мой у тым, што сярод працаўнікоў культуры не вымерлі яшчэ песімісты. Дзякуючы гэтаму можна мець надзею, што праца іх не станецца простай урадніцкай фармальнасцю, а будзе творчым пошукам лепшых форм пераказу вялікай сусветнай культуры ў малыя вясковыя грамадскасці.

Ул. Паўлючук

 

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### БРАТЫСЛАЎСКАЯ НАРАДА

3 жніўня адбылася ў Братыславе ў Славацыі нарада прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый: Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Польшчы, СССР, Чэхаславакіі. Братыслаўская нарада была склікана пасля двухбаковых размоў СССР і Чэхаславакіі ў Чэрнай над Цісай. Удзельнікі нарады прадыскутавалі спробы ўмацавання і развіцця братэрскага супрацоўніцтва сацыялістычных дзяржаў. У заяве, падпісанай пасля нарады, чытаем, што брацкія партыі салідарна супрацьстаўляцца імперыялізму, які хацеў бы аслабіць кіраўнічую ролю камуністычных і рабочых партый. Не дазволяць яны ўбіць кліна між сацыялістычныя дзяржавы. Сказана таксама аб узмацненні дзейнасці РВПГ і аб падрыхтоўцы новай сусветнай нарады камуністычных і рабочых партый.

### САЛІДАРНАСЦЬ — МІР — ДРУЖБА

Гэта галоўныя ідэі IX Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Сафіі. Удзельнічала 15 тысяч замежных дэлегатаў з 142 краін. Гэта найбольшы з дагэтуляшніх фестываляў. Ганаровымі гасцьмі былі Валянціна Церашкова і Аляксей Ляонаў.

### З В'ЕТНАМА

Да 25 ліпеня ЗША страцілі над Дэмакратычным В'етнамам 3058 самалётаў. У самой Амерыцы сенатары Мансфюльд, Юнг і кандыдат на прэзідэнта Макарці заклікаюць зноў да развагі. Сенатар Юнг заклікаў урад ЗША, каб парваў са «зграяй фашысцкіх генералаў Сайгона».

### ПАЛІТЫЧНЫЯ ПЕРАВАРОТЫ Ў ІРАКУ І КОНГА-БРАЗАВІЛЬ

У Іраку адбыўся чарговы палітычны пераварот, 13-ты ўжо за дзесяць год існавання рэспублікі. Прычына неспакою ў краіне знаходзіцца ў разбіцці і слабасці розных палітычных груп, якія змагаюцца за ўладу, а кожная з іх сама заслабая, каб увесці палітычную стабілізацыю. Галоўныя палітычныя групы гэта: феадалы, буржуазія, дробнае мяшчанства і сялянства.

У Конга-Бразавіль сітуацыя даволі няясная пасля перавароту. Невядома, што сталася з прэзідэнтам Масемба-Дэбат.

### НОВЫЯ ПРАВАКАЦЫІ ІЗРАІЛЯ

На Блізкім Усходзе Ізраіль нічога сабе не робіць з рэзалюцыі ААН, якая заклікала яго запэўніць спакойнае жыццё арабам на забраных тэрыторыях. Задумаў ён новую акцыю: перасяляе 50 тыс. арабаў з раёна Газы. На іх месца прыдуць яўрэйскія каланісты. Урад ізраільскі апрацаваў таксама новую карту сваёй будучай дзяржавы, на якой прыкроіў сабе велізарную частку тэрыторыі Егіпта.

### «НОВАЯ ПРАГРАМА»

Мао Цзэ-дун аб'явіў новую «асветную праграму». Паводле яе кожны пасля заканчэння вышэйшай школы павінен найперш працаваць фізічна. Перад паступленнем у школу малады чалавек таксама будзе вымушаны папрацаваць фізічна 1—5 год.

(вл)

## БССР

### В'ЕТНАМА

У Беларусі адбыліся дні В'етнама.

Ва ўрачыстасцях у Мінску ўдзельнічалі: надзвычайны і паўнамоцны пасол Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама ў СССР Нгуен Тхо Цянь, кіраўнік пастаяннага прадстаўніцтва Народнага фронту вызвалення Паўднёвага В'етнама ў СССР Данг Куанг Мінь, дэлегацыя таварыства в'етнамска-савецкай дружбы на чале з намеснікам міністра цяжкай прамысловасці Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама Ву Анем, дэлегацыя Народных узброеных сіл Вызвалення Паўднёвага В'етнама і інш.

В'етнамскія высокія госці нанеслі візіт Старшыні Савета Міністраў БССР Ц. Кісялёву. У гутарцы, якая праходзіла ў сардэчнай атмасферы, прынялі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР С. Кішкін і старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі В. Смірноў. Затым адбылася ў Беларускім таварыстве дружбы прэс-канферэнцыя, прысвечаная Дням В'етнама ў Беларусі.

Праграма Дзён вельмі багатая: адбылося ў цэлай рэспубліцы каля дваццаці тысяч розных мерапрыемстваў.

### КАНАДСКІЯ

У Мінску пабывала дэлегацыя асацыяцыі «Канада—СССР». Яе ўзначальваў генеральны сакратар асацыяцыі, член выканкома Кампартыі Канады Леслі Хант.

Канадскія госці азнаёміліся з выдатнымі мясцінамі беларускай сталіцы, пабывалі ў Доме-музеі Першага з'езда РСДРП, у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

### ГОМЕЛІ

У Гомелі адбыўся чарговы пленум Гомельскага абкома Камуністычнай партыі Беларусі, на якім абмеркавана задачы абласной партыйнай арганізацыі па далейшай спецыялізацыі калгаснай і саўгаснай вытворчасці. Адзначана добратворны ўплыў спецыялізацыі на развіццё вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі ў гаспадарках вобласці. Разам з тым указана на шмат-якія нявыкарыстаныя рэзервы.

У пленуме ўдзельнічаў і меў прамову сакратар ЦК КПБ У. Міцкевіч.

### ПАРТЫЗАНСКІ

3 ліпеня споўнілася 24-ая гадавіна з дня вызвалення Мінска. У сувязі з гэтай датай выканком гарадскога Савета дэпутатаў працоўных перайменаваў вуліцу Магілёўская шаша ў праспект **Партызанскі**.

### БЕТОНАЎКЛАДЧЫК

Рацыяналізатары Гродзенскага будаўнічага трэста № 11 сканструявалі арыгінальны бетонаўкладчык на базе трактарнага пагрузчыка «Т—157». Новая машына валодае выдатнай праходнасцю, лёгка і хутка перамяшчаецца.

За змену пры дапамозе бетонаўкладчыка можна ўкласці ў падмурак 80 кубаметраў бетону.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ДЫСКУСІЯ

Ва ўсёй краіне пачалася дыскусія над тэзісамі на V з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі. У многіх часопісах адкрыта «Свабодныя трыбуны», у якіх публікуюць свае выказванні спецыялісты розных галін жыцця.

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ ПРЫЛАДЫ

У III чвэрці года прамысловасць перакажа сельскай гаспадарцы значна больш сельскагаспадарчых прылад, чымсьці ў аналагічным перыядзе мінулага года. Колькасць трактараў, — якіх у I паўгоддзі гэтага года сельская гаспадарка атрымала каля 15 тысяч — у гэтай чвэрці асягне лік звыш 8200. Значна палепшыцца забеспячэнне ў сеўнікі. Да канца III чвэрці прамысловасць даставіць іх каля 59 тысяч, гэта значыць на 20 тысяч больш, чымсьці ў тым самым перыядзе мінулага года. На 8 тысяч пабольшыцца ў гэтым годзе дастаўка бульбакапалак, лік якіх асягне 50 тысяч штук.

### МЕТАЛУРГІЯ

Катавіцкая партарганізацыя апрацавала праграму разбудовы металургіі жалеза і сталі да 1985 года. Згодна з паказальнікамі праграмы прадукцыя сталі ў 1985 годзе павінна асягнуць 23 мільёны тон.

### У ГОНАР V З'ЕЗДА

Вартасць грамадскіх прац выкананых салдатамі ў гонар V з'езда ПАРП і 25 гадавіны Войска Польскага асягнула ўжо некалькі дзесяткаў мільёнаў злотых.

### НАСЕЛЬНІЦТВА

Паводле падлікаў Галоўнага статыстычнага бюро ў 1967 годзе насельніцтва Польшчы пабольшылася на 254 тысячы асоб і асягнула лік 32.200.000. На 100 кв. кіламетраў выпадае зараз 103 асобы. Да найбольш густа заселеных належаць ваяводствы: Катавіцкае, Кракаўскае, Гданьскае, Апольскае і Вроцлаўскае. Рэкорд у густасці засялення мае Хожаў (4660 асоб на квадратны кіламетр).

### ПЛОЦК

Плоцкі камбінат перарабіў ужо на бензін, алей, асфальт, газ і іншыя прадукты звыш 9 мільёнаў нафты. У выніку перaказання да выкарыстання новых прадукцыйных інсталяцый, а таксама інтэнсіфікацыі тэхналагічных працэсаў на пераробку 9 мільёнаў тон нафты трэба будзе пачакаць толькі паўтара года.

### СУСТРЭЧА

3 жніўня віцэ-прэм'ер Пётр Ярашэвіч сустрэўся з удзельнікамі XVII міжнароднага піянерскага лагера міру і дружбы. Віцэ-прэм'ер сардэчна прывітаў ад імя ўрада Народнай Польшчы ўдзельнікаў лагера. «Здабылі вы ў нашай краіне, — падкрэсліў ён, — многа новых сяброў. Гэтая дружба будзе найцаннейшым здабыткам, які кожны з вас вывезе з Польшчы, вяртаючыся ў сваю айчыну».

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ГАСПАДАРСКІЯ СПРЭЧКІ

У нашым ваяводстве завязалася ўжо шырокая даз'ездаўская дыскусія. Нарады мясцовага партыйнага актыву адбыліся нядаўна ў Каралёвым Мосце, Юшкавым Грудзе, Ялоўцы, Шымках і Міхалове. Удзельнікі гэтых нарад смела крытыкавалі адмоўныя праявы ў працы мясцовых устаноў. У Міхалове, напрыклад, праўленню ГС прыйшлося выслухаць шмат горкіх слоў па прычыне неўласцівага продажу цэменту. У Каралёвым Мосце адмоўна ацэнена метады і ўзравень ідэйна-выхаваўчай працы.

Адначасова адбываюцца нарады Павятовага актыву, на якіх падводзіцца вынікі гаспадарчых дасягненняў за міжз'ездаўскі перыяд і ўстанаўліваецца галоўныя напрамкі далейшага гаспадарчага развіцця паасобных паветаў. Асновай да спрэчак з'яўляюцца даз'ездаўскія тэзісы. Такія нарады адбыліся, між іншым, у Гайнаўцы, Беластоку і Саколцы.

### ДАЗ'ЕЗДАЎСКІ ЧЫН

Працаўнікі 178 гандлёвых устаноў Беластоцкага ваяводства прынялі на сябе даз'ездаўскае абавязацельства, якое ацэньваюць на суму ў 35 мільёнаў злотых. У ліпені гэтае абавязацельства было выканана ўжо на звыш 30 мільёнаў злотых. Сярод найбольш актыўных знайшліся працаўнікі Сямяціцкага ГС-у. Адначасова гандлёўцы ахвяравалі звыш 100 тысяч злотых на фонд пабудовы помніка Цэнтра Здароўя Дзіцяці.

### НАРАДА ПЧАЛЯРОЎ

Гадоўцы пчолак з Беластоцкага ваяводства два дні абмяркоўвалі найважнейшыя справы сваёй прафесіі. Заслухалі яны трох дакладаў і абмяняліся вопытам.

### УЗНАГАРОДА АРХІТЭКТАРАМ

Калектыў Беластоцкіх архітэктараў, які ўзначальвае магістр інжынер Міраслаў Збіхорскі, атрымаў узнагароду міністра будаўніцтва за архітэктурную развязку гандлёвага цэнтра ў Тыкоціне.

### ФАБРЫКА КУРАЦІНЫ

Беластоцкае прадпрыемства пераапрацоўкі яек і хатняй птушкі з'яўляецца адным з буйнейшых у краіне. Для сваіх і замежных пакупнікаў прадпрыемства падрыхтоўвае ў год паўтара мільёна куранят, 300 тысяч качак і шмат гусей, індзюкоў і перлічак. Беластоцкае птушынае мяса найбольш ахвотна купляюць у Англіі, Бельгіі, Заходняй Нямеччыне, Францыі і Даніі. У гэтым годзе паедзе за мяжу 225 тон куранят, 8200 тон гусей, 7500 тон качак і 70 тон індзюкоў і перлічак.

### НЕВЯДОМЫ ПАКОЙНІК

Як падае міліцыя, яшчэ 26 чэрвеня г.г. недалёка ад Гайнаўкі знойдзена цела мёртвага мужчыны, пры якім не было ніякіх дакументаў і таму дагэтуль не ўстаноўлена, кім ён быў. Мужчына гэты невысокага росту — 166 см, худы, меў нейкіх 35 год. Міліцыя просіць дапамагчы ёй устанавіць персанальныя дадзеныя нябожчыка.

(вр)




**NIEDZIELA 11.VIII.**

8.25 Program dnia. 8.30 ,,Rezerwat wyspy Kiże'' (Pietrozawodzk). 9.00 Zespoły i soliści w repertuarze jazzowym i rozrywkowym''. 9.40 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.50 ,,Podbój kosmosu'' — film dok. radz. 10.40 PKF. 11.00 Dla młodych widzów: ,,Wesołe starty'' — turniej gier i zabaw sportowych (Moskwa). 12.05 ,,Koncert w Porcie'' (Berlin). 13.00 Dziennik. 13.10 ,,W starym kinie''. 14.10 ,,Spotkania z przyrodą''. 14.35 ,,Przemiany''. 15.05 Dla dzieci: Dvorsky — ,,Bajka o dobrym smoku'' — widowisko Państw. Teatru Lalek ,,Świerszcz'' w Białymstoku. 16.05 ,,Przygody trzech muszkieterów''. 16.30 ,,Piórkiem i węglem''. 16.55 ,,Morskie opowieści'' — program muzyczno-rozrywkowy. 17.40 ,,Kamera 68''. 18.00 ,,Zawsze w niedzielę'' — TV Turniej Miast: Kraśnik — Puławy (transmisja z rynku w Kazimierzu) — cz. I. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Zawsze w niedzielę'' d. c. Turnieju Miast (Kazimierz). 21.05 ,,Recital Ireny Santor''. 21.35 ,,Banda'' — film fab. pol. 23.05 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK 12.VIII.**

17.15 Program dnia. 17.20 Dziennik. 17.30 ,,Tramp''. 17.50 ,,W autobusie'' — film radz. 18.15 Program publ. 18.40 ,,Eureka''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: O. Wilde — ,,Brat marnotrawny''. 21.20 ,,Klaps''. 21.50 ,,Bezpieczne dzieciństwo'' — film kanad. 22.15 Dziennik.

**WTOREK 13.VIII.**

10.00 ,,Utracona córka'' — film fab. czechosł. 11.20 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Teleferie: 1. ,,Turniej Żółtej Żyrafy'', 2. ,,Wtorkowe Towarzystwo Nieprzemakalnych'', 3. ,,Znak Zorro'' — film. 18.15 TV Kurier Warszawski. 18.35 ,,Po szóstej''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Utracona córka'' — film fab. czechosł. 21.55 Kabaret T. Czyżewskiego — ,,Gałka muszkatułowa''. 22.35 Dziennik.

**ŚRODA 14.VIII.**

10.00 ,,Stare tapety'' — film (,,Dr Finley''). 10.50 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Ula i świat''. 17.30 PKF. 17.40 ,,Nie tylko dla pań''. 18.00 ,,Nad Odrą i Bałtykiem''. 18.30 ,,Artyści baletu'' — film TVP. 18.45 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Te opolskie dziouchy''. 20.35 ,,Światowid''. 21.05 ,,Stare tapety'' — film (,,Dr Finley''). 21.55 ,,10 minut recenzji''. 22.05 Dziennik.

**CZWARTEK 15.VIII.**

10.00 ,,Nr I B — 2968'' i ,,Trzecia ręka'' — filmy TVP (,,Kapitan Sowa na tropie''). 10.55 Przerwa. 17.20 Program dnia. 17.25 Dziennik. 17.30 ,,Telekram''. 17.40 ,,My mówimy po francusku'' — film (,,Z kamerą po świecie''). 17.55 ,,Smail, mój syn'' — film alg. (,,Dzień pokoju''). 18.25 Wszechnica TV: ,,Poszukiwacze skarbow'' (,,W pracowniach polskich uczonych''). 18.55 ,,W cyrku'' — film radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Trybuna Telewizyjna. 20.35 ,,Dotknięcie nocy'' — film fab. pol. 22.10 ,,Krótkie spięcia''. 22.40 Dziennik.

**PIĄTEK 16.VIII.**

10.00 ,,Przygody Wernera Holta'' — film fab. NRD. 12.40 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Teleferie: 1. ,,Związek Zielonego Zeszytu'', 2. ,,Niewidzialna Ręka'', 3. ,,Piątkowe Towarzystwo Nieprzemakalnych'', 4. ,,Kronika pod Lwem'', 5. ,,Znak Zorro'' — film. (odc. XIV) 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 Program publ. 18.55 ,,Gra Zespół Organowy Rozgłośni PR''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Przygody Wernera Holta'' — film fab. NRD. 22.45 Dziennik.

**SOBOTA 17.VIII.**

10.00 ,,Dom obcych ludzi'' — film fab. USA. 11.40 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 Program tygodnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Sprawozdanie sportowe. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 ,,Almanach''. 20.40 ,,Przedstawiamy'' — piosenki i tańce Rumunii. 21.25 Dziennik. 21.40 Wiadomości sportowe. 21.50 ,,Dom obcych ludzi'' — film fab. USA.




**9 sierpnia, piątek**

15.00 ,,Nowości''. 15.10 Program dnia. 15.15 ,,Nowe książki''. 15.40 Film animowany dla dzieci. 16.00 ,,5+2''. 16.30 ,,Gdzie się urodził Iljicz''. Transmisja z Ulianowska. 17.00 Klub filmowy. 18.00 Komu służy ,,socjalizm demokratyczny''. 18.25 ,,Gwiazdy sierpniowe''. Nowela TV. 19.00 ,,Sztafeta nowości''. 20.00 ,,Kalendarz muzyczny''. 20.15 ,,Rapsodia morska''. Koncert orkiestry marynarki wojennej. 21.15 ,,Tylko fakty''.

**10 sierpnia, sobota**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 Program rozrywkowy. 8.30 ,,Zdrowie''. 9.00 ,,Szkatułka błękitna''. Film TV. 10.00 ,,W pewnym mikrorejonie''. Reportaż. 10.30 ,,Szkatułka muzyczna''. 10.50 Program popularno-naukowy. 11.20 Film animowany dla dzieci. 11.30 TV teatr dla dzieci. Premiera teatru kukiełkowego ze Świerdłowska. 12.30 ,,Tydzień ekranu błękitnego''. 12.45 ,,Żołnierze pracy''. 13.15 Koncert. 14.15 Dziennik. 14.30 TV barwna. 16.00 ,,Stawka większa niż życie'' Film TV. III seria. 17.00 Piłka nożna: ,,Dynamo'' (Mińsk) — ,,Dynamo'' (Moskwa). 18.45 ,,Czas''. 19.15 Program poświęcony Dniu kultury fizycznej. 20.15 ,,Ja z 60-ch''. 21.15 Dziennik. 21.30 Koncert dla sportowców.

**11 sierpnia, niedziela**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 ,,Budzik'' 8.00 ,,Wiedza''. 8.30 Sportowy Film dokument. 9.00 ,,Nowości budownictwa''. 9.10 ,,Nie zapomnij, stacja Ługowaja''. Film. 10.30 ,,Białe i czarne''. 11.00 Dla uczniów. 12.00 ,,Dziś — Dzień budowlanych''. 12.30 ,,Radar''. 13.00 ,,Kiosk muzyczny''. 13.30 ,,Klub wiejski''. 14.30 TV barwna. 16.00 ,,Stawka większa niż życie. IV seria. 17.00 ,,Poczta Błękitnego płomyka''. 18.00 ,,Siedem dni''. 18.45 TV barwna. 19.50 ,,Piosenka o moim mieście''.

**У гонар V з'езда ПАРП**

# АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ ЗМВ

«Ніва» змясціла інтэрв'ю са старшынёй Павятовага праўлення ЗМВ у Бельску аб чынах. Ніжэй падаем інфармацыю аб абавязацельствах некаторых гурткоў.

*

Гурток ЗМВ у **Мулявічах** пастанавіў грамадскім чынам правесці рамонт клуба «Рух», а таксама ўпарадкаваць панадворак вакол клуба. Чын рэалізуе 12 членаў ЗМВ і 8 маладых не членаў ЗМВ. Агульная вартасць чыну 31 тыс. зл.

*

Гурток ЗМВ у **Парцаве** пастанавіў: упарадкаваць гаспадарскія панадворкі, упарадкаваць пляц гульняў пры школе, супольна з гуртком ЛьЗС правесці рамонт спартыўнай пляцоўкі для футбола і пабудаваць пляцоўку для валейбола. У чыне прыймала ўдзел 24 члены ЗМВ, а вартасць 6 тыс. зл.

*

Моладзь са **Снежак** упарадкавала школьны пляц і панадворак, а таксама абсадзіла яго дрэвамі. Вартасць чыну — 1,5 тыс. зл., а ў чыне прыймала ўдзел 16 асоб.

*

Члены ЗМВ у **Орлі** абавязаліся дапамагчы пры пабудове спартыўнай пляцоўкі разам з ЛьЗС, правесці рамонт грамадскай святліцы і ўвесь час дбаць аб яе эстэтычны выгляд. Члены ЗМВ будуць дапамагаць дыжураваць настаўнікам мясцовай школы на вуліцах у вячэрніх гадзінах. Вартасць чыну 5 тыс. зл.

*

Гурток ЗМВ у **Кашэлях** забавязаўся пасадзіць дрэўкі вакол святліцы і ўпрыгожыць унутры будынак. У чыне прыймала ўдзел 15 членаў гуртка, а яго вартасць 2 тыс. зл.

*

Моладзь з **Кнарыд** забавязалася пабудаваць спартыўныя пляцоўкі да футбола і валейбола, упарадкаваць гаспадарскія сялібы, падрыхтаваць машыны сельгасгуртка да палявых работ, пабяліць хлявы. У чыне прыняло ўдзел 18 членаў ЗМВ, а вартасць каля 5 тыс. зл.

*

Гурток ЗМВ пры ВСТВ (Спулдзельня вясковага транспарту) **у Бельску** забавязаўся: засадзіць дрэўкамі базу спулдзельні, апрацаваць хроніку павета ў рамках акцыі «Выратуем ад забыцця», адрамантаваць даезд да базы. У чыне прыймае ўдзел 16 членаў ЗМВ, а яго вартасць — 8 тыс. зл. (ак)

# АБ ПАЖАРНЫХ СПРАВАХ

**1967** што пералічыўшы на страты Бельскага павета 42 пажары, год запісаў у статыстыках выносіць 2.972 тысячы зл. Многа гэта ці мала? — насоўваецца пытанне. Калі параўноўваць да 1966 года, дык на 5 пажараў менш і на 1410 тысяч зл. меншыя страты. Але такое параўнанне не дае поўнасцю вобразу пагрозы пажараў. На працягу апошніх пяці год у сярэднім прыпадала тут у год 40 пажараў. Да чэрвеня г.г. успыхнула ў Бельскім толькі 13 пажараў.

Якія прычыны? Статыстыка за 1967 год паказвае, што найбольшая колькасць пажараў паўстае: з неасцярожнасці ўзрослых асоб — 10, ад электраўстановак — 8, ад праўдападобнага падпалення — 10 і іншых прычын. Найбольш небяспечная з'ява паўставання пажараў, і што горш — усё ўзрастаючая іх колькасць, назіраецца з прычын электрычных прылад. Прычыны з'явы — гэта ўсё больш шырокае прымяненне электрычных прылад у гаспадарцы, а з другога боку незнаёмасць бяспечнага іх абслугоўвання. Адпаведныя кампетэнтныя органы павінны хутка перадумаць не толькі справу кантролю над інсталяцыяй і кантролем інсталявання электрычных прылад, але перш за ўсё, навучыць гаспадароў бяспечна карыстацца імі. Як адзін са спосабаў можна было б тут падаць форму зімовага шкалення, як гэта было з навучэннем правілаў дарожнага руху. Колькасць пажараў з гэтай прычыны і панесеныя страты сведчаць аб тым, што праблемай трэба заняцца неадкладна.

Аб тым, што прафілактыка з'яўляецца тут найважнейшай, сведчаць пастановы Павятовай рады нарадовай. Павятовая камэнда пажарнікаў, здаецца, у гэтым напрамку робіць вельмі многа. Між іншым, перашколена 592 асобы, якія з'яўляюцца членамі кантрольных калектываў пакліканых Прэзідыумам ГРН, праведзена больш 100 кантроляў, многа асоб пакарана, праведзена шмат гутарак. Аднак найвялікшыя цяжкасці назіраецца, калі разыходзіцца пра кантроль праведзены вясковымі калектывамі. Можна сцвердзіць, што гэта найбольш масавая форма прафілактыкі. Міма вялікіх намаганняў успомненых калектываў здавальняючай паправы вынікаў стану супрацьпажарнай бяспекі няма. Чаму? Віна тут перш за ўсё ў дзейнасці ГРН. Вельмі часта не выдаюць яны паслякантрольных загадаў на складзеныя калектывамі пратаколы, а там, дзе іх выдаюць, не кантралююць іх выканання. На пасяджэннях прэзідыумаў ГРН не аналізуюць акцыі кантролю і таму падобныя справы.

Іншай справай, якая адыгрывае ўжо не толькі прафілактычную ролю, гэта арганізацыя ОСП. У Бельскім павеце налічваецца іх 80. І калі б толькі разыходзілася пра лік, колькасць іх была б не так ужо і малая. Больш істотнай справай з'яўляецца іх якасць. Маецца тут на думцы не толькі падрыхтоўку пажарнікаў, але і прылады, якімі яны паслугоўваюцца. Напрыклад, аж 54 ОСП маюць конны транспарт, а толькі 11 самахадовы. Трэба дадаць, што з гэтых 11 самаходаў толькі 5 надаецца да далейшага карыстання. Ясным стаецца, што пры дапамозе такога транспарту не пад сілу нават найбольш ахвярным пажарнікам абслужыць тэрыторыі павета.

Вельмі, калі не найбольш, задавальняючым ёсць тое, што пры ОСП развіваюць сваю дзейнасць маладзёжныя і гарцэрскія пажарніцкія дружыны. Зараз налічваецца тут 27 жаночых дружын і 10 хлапечых. Справа на толькі важная, што яны змогуць не толькі заступіць старую кадру пажарнікаў, але ўжо зараз дасканала весці прафілактычную дзейнасць сярод дзяцей, а нават і ўзрослых.

А. К.

# Ліквідуецца цераспалосіца

Адной з прычын, у вялікай меры гамуючай інтэнсіфікацыю сельскай гаспадаркі, праз увядзенне навейшых дасягненняў агратэхнікі, аховы раслін і механізацыі на Гайнаўшчыне, з'яўляецца цераспалосіца. Выступае яна ў 43 вёсках і 19 прысёлках нягледзячы на зямлю Дзяржаўных лясоў. Апрача таго вельмі некарысным ёсць факт, што цераспалосіца выступае ў тых ГРН, дзе ёсць многа ПФЗ (Дзяржаўнага фонду зямлі), а ад гэтуль цяжкасці ў яго загаспадараванні.

Адзіным спосабам на гэтую некарысную з'яву з'яўляецца камасацыя. Гайнаўскія ўлады апрацавалі план камасацыі, на 1968 г., які зацверджаны Прэзідыумам ВРН. Згодна з планам камасацыя адбудзецца ў такіх вёсках:

1) Клейнікі — 700 га, у тым ліку ПФЗ — 313 га.

2) Даратынка, ГРН Нарва — 180 га, у тым ліку ПФЗ — 77 га.

3) Карыціска, ГРН Стары Корнін — 50 га, у тым ліку ПФЗ — 15 га.

4) Істок, ГРН Арэшкава — 713 га, у тым ліку ПФЗ — 62 га.

5) Полаўцы, ГРН Чаромха — 413 га, тым ліку ПФЗ — 62 га.

Зараз праз абмен адбываецца камасацыя зямлі ў ПГР у Клейніках, а таксама зямлі спулдзельні прадукцыйных у Даратынцы і Полаўцах. Да ліквідацыі цераспалосіцы ўжо прыступілі ў Карыцісках. (к.а.)

# ЗЛЁТ ЛОК

Нядаўна ў Беластоку адбыўся матаровы злёт ЛОК з нагоды 24 гадавіны вызвалення Беластока і 25 гадавіны Народнага Войска Польскага. З'ехаліся сюды 700 прадстаўнікоў 80-тысячнай арганізацыі Лігі Абароны Краіны на Беласточчыне. Склалі яны вянкі пад помнікам удзячнасці савецкім воінам, а потым правялі спартыўныя спаборніцтвы.

У стралковым паядынку першае месца заняла дружына ЛОК з Бельска Падляшскага, а ў эстафетным многаборстве дружына з Гайнаўкі мела трэцяе месца.



**На здымку:** Стралковая дружына з Бельска ў час спаборніцтваў.

Тэкст і фота: Ка

## М. ЯНКОЎСКІ

БЫЛЫ КАМАНДЗІР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ "У ІМЯ РАДЗІМЫ" БЕЛАСТОЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ

# У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

IV

Гайнаўскі, Бельскі і Бранскі раёны, як і ўскраіны Белавежскай пушчы, былі пакрыты густой сеткай варожых гарнізонаў. У самой Гайнаўцы і Белавежы цяжка было ўстанавіць колькасць гестапаўцаў і іх наймітаў паліцыянтаў. Вядома толькі, што асноўны касцяк аховы гэтых пунктаў ніколі не быў менш 500 чалавек у кожным.

Горад Бельск быў асабліва важным стратэгічным пунктам. У ім апрача чыгуначнай станцыі і вузла шасэйных дарог быў размешчаны буйны варожы аэрадром. Узброены гарнізон горада таксама складаўся ў асноўным з 500 чалавек, але ў ім заўсёды знаходзілася яшчэ каля тысячы салдат рэгулярных войск, якія рухаліся на фронт і з фронту. Буйны гарнізон, да 200 чалавек, быў размешчаны ў мястэчку Боцькі. У Орлі, Грыгароўцах, Страблі, Кнарыдах, Клеп́іках, Праневічах і Леўках знаходзіліся невялікія гарнізоны па 15—20 чалавек.

Бранскі раён больш лясісты, чым Бельскі і Лапскі. На поўдні яго за рэчкай Нурэц раскінуліся Рудакоўскі і Лемпіцкі лясы, а на правым беразе гэтай рэчкі — Бранскі лес. У Бранск сыходзяцца дарогі з Шэпятова, Тапчэва, Бельска і Цеханоўца. Бранск — цэнтр фашысцкай гміны і ён меў меншае значэнне, чым павятовы Бельск. Яго гарнізон не перавышаў 50 чалавек. Такія ж гарнізоны былі ў Рудку, Топчаве і Долабаве, дзе размяшчаўся рэзервны аэрадром.

Лапскі раён таксама даволі стратэгічнае месца. Яго перасякаюць дзве чыгункі і тры шасэйныя дарогі. Тут былі варожыя гарнізоны ў Лапах, Сакалах, Суражы, Вулька - Пашкоўскай і дробныя гарнізоны па ахове чыгунак і дзяржаўных маёнткаў.

Па ўсіх раёнах раскінута мноства невялікіх дзяржаўных маёнткаў. Гэтыя раёны выконвалі ролю фарпосту на подступах да Усходняй Прусіі. Без дапамогі з Беластока немцы маглі ў любы час сабраць супраць нас даволі буйны карны атрад. І гэта асабліва ўскладняла нашу работу. Варожая агентура мела звесткі, што ў Белавежскую пушчу прыбыло вялікае падраздзяленне партызан, але пасля начнога бою 6 мая гітлераўскія гарнізоны страцілі ўсе магчымасці пранікнення ў нашы атрады і групы, а новае папаўненне атрадаў праводзілася з усебаковай і дасканальнай праверкай людзей антыфашысцкімі камітэтамі і падпольнымі камсамольскімі арганізацыямі. Падпольны міжрайком партыі і райкомы камсамола арганізацыйна аформілі 15 антыфашысцкіх камітэтаў у Бельскім раёне, 12 — у Гайнаўскім і 9 у Бранскім; стварылі 17 падпольных камсамольскіх арганізацый у Бельскім і Гайнаўскім раёнах і 5 у Бранскім.

Гестапаўцы ў сваю чаргу стварылі ў Бранскім раёне арганізацыю «юнакоў» для будаўніцтва шасэйнай дарогі да Буга праз Пабікры. Падпольныя камсамольскія арганізацыі накіравалі туды 15 сваіх камсамольцаў, разведалі мэты і задачы гэтай фашысцкай арганізацыі і падрыхтавалі правядзенне мітынгу яе ўдзельнікаў. Камандзір атрада імя Жукава Павел Разін прыбыў з атрадам на дарогу, калі там працавалі ўсе «юнакі». З палымянымі прамовамі на мітынгу выступілі Томаш Грабаж і сакратар райкома Соня Францкевіч. «Юнакі» зразумелі, што іх арганізацыя служыць на карысць ворагу і разбегліся з яе. Будаўніцтва дарогі было сарвана.

Гэтая аперацыя жукаўцаў і прапагандысцкая дзейнасць падпольных райкомаў партыі, райкомаў камсамола і антыфашысцкіх камітэтаў далёка на захадзе ад Белавежскай пушчы, яшчэ больш занепакоіла гітлераўцаў. Яны пачалі рыхтаваць аперацыю па разгрому партызан передавой групіроўкі нашай брыгады. Камандзір атрада Павел Разін паведаміў мяне, што немцы пачалі сцягваць сілы да Бранскага лесу. Я аддаў распараджэнне камандзіру атрада імя Багдана Хмяльніцкага тэрмінова накіраваць у распараджэнне Разіна ўзвод аўтаматчыкаў пад камандай начальніка штаба Уладзіміра Шаўчэнка. Узвод прыбыў у Бранскі лес 8 мая.

9 мая на світанні вораг пачаў акружэнне Бранскага лесу. Жукаўцы і Багданаўцы перш меркавалі пакінуць бранскі лес без бою, але жаданне помсты ворагу за яго начны налёт на штаб брыгады, стрымала іх. Было вырашана даць бой карнаму атраду гітлераўцаў, сілы якога ў некалькі разоў былі большымі.

Бой пачаўся раніцай на невялікай паляне. Варожы ланцуг, што першым увайшоў у лес, быў спатканы агнём з партызанскіх аўтаматаў і вінтовак. Партызаны рынуліся ў атаку, змялі фашыстаў на невялікім адрэзку фронту і вышлі ў глыб лесу.

 

# ГАВОРАЦЬ НАСТАЎНІЦЫ





**ЯЎГІННЯ ІВАНЧУК** — настаўніца польскай мовы ў пачатковай школе ў Сяміхочах, Сямяціцкага павета:

— У нашай школе ў асноўным я займаюся навучаннем польскай мовы, бо я нядаўна закончыла завочна настаўніцкую студыю, спецыяльнасць — польская філалогія. Вяду школьную бібліятэку і гурток польскай мовы ў школе. Усе справы звязаныя са спецыфікай навучання польскай мовы ў беларускім асяроддзі, мне амаль поўнасцю знаныя. Па колькі беларуская мова — славянская і мае многа падобных слоў і граматычных правілаў, я на ўроках стараюся адклікацца да беларускай мовы, параўноўваць. Перад усім кладу націск на мясцовыя дыялекты, як польскай, так і беларускай мовы. Разумею, што гэта справа не простая. У падручніках польскай мовы ёсць прыклады дыялектаў кашубскіх ці гуральскіх, але яны чужыя дзіцяці, а аб нашых дыялектах папулярнага, даступнага дапаможніка няма. А мы ж павінны перад усім паказваць хараство і сувязь з літаратурнай мовай мову данай вёскі. У нашым выпадку гэта датычыць як польскіх, так і беларускіх дыялектаў. Трэба ж даказваць нашым вучням, што мова, якою карыстаюцца іх бацькі і яны, не «ніякая», але мае акрэсленыя сувязі з данай літаратурнай мовай.

**ІРЫНА МІХАЛЬЧУК** — настаўніца беларускай мовы ў Сяміхочах:

— У нас школа, дзе навучаецца беларуская мова як прадмет. На ўрокі бел. мовы прыходзіць каля 100 вучняў на агульную колькасць 154 вучняў у школе. Што датычыць дыялектаў, дык я поўнасцю згодна з Ірынай Іванчук. Падручнікі граматыкі бел. мовы абсалютна гэтага не прадбачваюць, не ведаюць нашай спецыфікі. Мне здаецца, што метадычныя цэнтры павінны аб гэтым падумаць і апрацаваць хаця б для настаўніка папулярны дапаможнік аб беларускіх дыялектах на Беласточчыне. Асабіста лічу вялікім недахопам нашых улад, што трактуюць навучанне беларускай мовы як добраахвотнае. Такое трактаванне дэзарганізуе, а ў многіх выпадках, дэмаралізуе працу школы. Вучні маюць права лічыць гэты прадмет абыякава, а вынікі гэтага вядомы не толькі педагогам. Мне здаецца, што калі б уласціва паставіць навучанне беларускай мовы, дык магло б гэта прынесці толькі карысць агульнаму развіццю дзіцяці.

А ў нас вельмі часта здараецца так, як у мяне ў тэтым навучальным годзе (1967/68). Выслала я на пачатку школьнага года да «Дома кніжкі» ў Сямяцічах заказ на граматыкі для V, VI і VII класаў і на літаратуру для VIII класа і да канца школьнага года не атрымала ніякага адказу.

Тэкст і фота А. К.

# ПЕРАД ПАДСУМАВАННЕМ

(Працяг са стар. 1)

таноў як: ПЗГС, ОСМ, ПЗУ ці Павятовую раду жанчын, дык чаму ж дзівавацца вясковаму насельніцтву? А гэтыя ж установы і арганізацыі дзейнічаюць сярод вясковага насельніцтва, выхоўваюць яго.

З гэтага вывад просты: трэба знайсці спосаб на гэтых людзей і даказаць ім аб іх адказнасці за тое, што ў Катлах ці Мулявічах няма дзяцінца і што сам факт існавання дзяцінца гэта не ўсё. З гэтым вяжуцца сур'ёзныя справы выхавання і апекі над дзяцьмі, якіх бацькі ствараюць народнае багацце. І гэта справа павінна быць востра падкрэслена на падсумаванні летняй акцыі.

Іншай справай, менш вострай, ёсць пытанне: хто павінен займацца арганізацыяй летняга адпачынку дзяцей. Не буду гаварыць тут аб ЗГП, гэта справа ясная. Але апрача гэтай арганізацыі летнім адпачынкам займаецца Аддзел асветы, Саюз сельгасгурткоў і ТПД. Не маю больш прэтэнзіі да Аддзела асветы, гэта спецыялісты. Але крышку непакоіць мяне факт, што арганізацыяй 18 дзяцінцаў займаецца Саюз сельгасгурткоў, а фінансуюць гэтыя ж дзяцінцы ГС-ы, СОП-ы, ПЗУ, ПЗГС, ОСМ і некаторыя базы сельгасгурткоў. З другога боку ведаю, што ў Павятовым праўленні Саюза сельгасгурткоў няма каму займацца гэтай справай. Асмелюся прапанаваць, каб асведамляючую працу сярод вясковага насельніцтва далей і мацней вялі вышэй успомненыя арганізацыі і ўстановы, але **арганізацыяй летняй акцыі хай займецца перш за ўсё ТПД** і можа гарцэрства. ТПД з'яўляецца арганізацыяй, якая павінна і якая патрапіць арганізаваць. Мала таго, як спецыялістычная арганізацыя можа згуртаваць і гуртуе многа актыву адданага справе дзяцей. Грошы, якія маюць паасобныя ўстановы і прадпрыемствы на арганізацыю летняй акцыі можна поўнасцю пераказаць для ТПД і дапамагаць ТПД у арганізацыі дзяцінцаў.

ТПД у Бельску ў апошнім часе выказалася вялікай дынамічнасцю, калі разыходзіцца аб арганізацыю летняга адпачынку дзецям. Толькі ў гэтым годзе сарганізавана ў ліпені для 360 дзяцей з вёскі адпачынак у горадзе. Апрача таго ТПД арганізавала 3 вандроўныя лагеры.

Лікі можна множыць, але не ў тым справа. Справа ў тым, каб ужо ў гэтым годзе, пры падсумаванні летняй акцыі пераканаць некаторых начальнікаў аб важнасці справы і каб прадыскутаваць і зрабіць пэўныя змены, калі разыходзіцца аб будучай летняй акцыі — 1969.

**А. Карпюк**

# БЫЛІ ДАЖЫНКІ

Прайшлі полем жняярка, камбайн. Жыта зжата. Ужо па жнівах. Цяпер нават найдаўжэйшае жніво ідзе пару дзён. А сярпы? Сярпы бедныя, сталі музеальным экспанатам. І столькі змен у адным пакаленні! Але... паслухайце, як было на вёсцы за маёй маладосці і майго сталага веку.

Калі добра закончылася якая-небудзь праца, яна заўсёды адзначалася пачастункам. Пілі гарэлку, елі лепшыя стравы і жадалі гаспадару здароўя і шчасця. Калі пачыналі якую-небудзь будоўлю, то пілі «закладзіны», калі канчалі яе, то пілі «вянковае». Пры пакупцы ці продажу большай штукі з гаспадаркі: каня, каровы, вепрука, або палоскі зямлі заўсёды пілі «літкуп» або «барыш». Часта пры такім «барышы» ўпіваліся да таго, што прапівалі ўсё атрыманае за штуку і дахаты вярталіся без тавару і без грошай.

Асабліва распаўсюджанымі былі пачастункі пры жнівах жыта, т.зв. «дажынкі». Дажынкі адбываліся па-рознаму. Калі гаспадар з цэлай працаздольнай сям'ёй, шчасліва заканчваў жніво, апошняе жмені збожжа не зрэзвалі нізка, а толькі каласы. З саломы ўпрыгожанай кветкамі рабілі «перапяліцу», якая заўсёды, як напаказ, стаяла пры дарозе. Убіралі ў кветкі перапяліцу дзяўчаты, спявалі пры гэтым адпаведныя песні, як «Ой жніся, жніся». Пасля сядалі каля перапяліцы. Гаспадыня даставала з торбы як найлепшы пачастунак. У вясёлым настроі ішлі ўсе дахаты, у руках неслі сярпы. Ідучы спявалі. Інакш бывала ў тых гаспадароў, якія мелі шмат зямлі, а мала сваіх жанцоў. Склікалі яны т.зв. «талаку». Прыходзілі да іх на дажынкі толькі за пачастунак. Жалі заўзята. Таксама ўбіралі перапяліцу і спявалі, а потым усе разам гурбою ішлі проста ў хату гаспадара. Гасціна, часта з музыкантам, працягвалася да позняй ночы. Бяда гаспадару, які не дастаткова частаваў жанцоў. На другі год ніхто не пайшоў бы да такога жаць.

Зжатыя снапы жыта, пшаніцы, аўса, ячменю ці іншага збожжа заўсёды стройнымі радамі стаўлялі дзеля прасушкі. Па-рознаму называлі іх. Калі ставілі 9 снапоў, а трыма накрывалі, называлася гэта «ляшкамі». Калі ставілі дзевяць снапоў, а дзесятым накрывалі, называлі «шапкамі» або «лялькамі», а часам «дзесяткам». Калі ставілі, напрыклад, авёс ці ячмень па 4 снапы, а пятым накрывалі, то казалі, што гэта «пятакі».

Зусім інакш адбываюцца цяпер Цэнтральныя дажынкі ў Варшаве.

**Н. Перавой**

**Чытайце і распаўсюджвайце „НІВУ“**

На гэтым аперацыя не скончылася. Разін і Шаўчэнка разумелі, што гітлераўцы будуць праследваць іх. Яны вывелі партызан на ўскраіну лесу, самі знайшлі ворага і не даўшы яму апамятацца зноў ударылі па адным з яго ланцугоў. І гэты ўдар быў кароткім і нечаканым для гітлераўцаў. Партызаны зрабілі чарговы манеўр па Бранскім лесе, збілі з панталыку камандванне карнага атрада і яшчэ раз абстралялі немцаў.

Так, з перапынкамі, бой цягнуўся ўвесь дзень. Буйны атрад гітлераўцаў кідаўся то ў адзін, то ў другі бок і ўсюды натыкаўся на неўлавімых партызан, якія абстрэльвалі іх передавыя часці і знікалі таксама раптоўна, як і з'яўляліся.

Пачало цямнець. Гітлераўцы страцілі ўжо больш дваццаці чалавек забітымі, было шмат раненых. Яны не разлічвалі ўжо на поспех бою і вярнуліся ў свае гарнізоны, як кажуць, не солена хлябаўшы. У гэтай бітве загінулі нашы партызаны Антыпаў і Вішневіч.

Фашысты хацелі ўзарваць чыгуначны мост праз раку Лясную. Правую на адрэзку чыгункі Чаромха—Гайнаўка. Атрад Багдана Хмяльніцкага разагнаў фашысцкіх мінёраў, 4 гітлераўскіх афіцэраў і шэсць салдат былі забіты, а шэсць фашыстаў паранена.

Смелыя вылазкі кутузаўцаў супраць варожага гарнізона ў Семяноўцы не давалі магчымасці немцам вылезці са сваіх умацаванняў і праводзіць дыверсіі па разбурэнню дарог і мастоў для зрыву паспяховага наступлення нашай арміі

Дыверсійная група атрада імя Кутузава ўзарвала дзве нямецкія аўтамашыны з адступаючымі на захад гітлераўцамі і адзін цягнік.

Мы тэрмінова павялі вынікі разведак нашых атрадаў пад камандай Рыгора Саевіча насустрач наступаючай Савецкай Арміі. Саевіч сустрэўся з Савецкай Арміяй, перадаў камандванню каштоўныя звесткі аб подступах да Заходняга Буга з падрабязным апісаннем варожых умацаванняў, гарнізонаў і іншых аб'ектаў ваеннага значэння на гэтым шляху.

Савецкая Армія набліжалася да Белавежскай пушчы. Атрад імя Кутузава сустрэўся з воінамі адной з гвардзейскіх стралковых дывізій і памог іх разведцы і аддзельным падраздзяленням прайсці праз пушчу да чыгункі Гайнаўка — Белавежа. Воіны другой гвардзейскай стралковай дывізіі ішлі ў пушчу з усходу.

Атрад імя Багдана Хмяльніцкага, якому было даручана не дапусціць немцаў у пушчу паўднёвай шасэйнай дарогі Гайнаўка — Шэрашова, дзе размяшчаўся запаведнік зубраў, выйшаў у раён рэзервата і не дапусціў пранікнення сюды нямецкіх войск. Зубры былі выратаваны.

Аб гэтай, адной з важнейшых баявых аперацый, можна было б напісаць больш падрабязней, але на старонках «Нівы» быў ужо змешчаны артыкул начальніка штаба партызанскага атрада імя Багдана Хмяльніцкага Уладзіміра Пілпавіча Шаўчэнкі. Я не хачу паўтарацца. Змяшчу толькі сваё распараджэнне атраду Б. Хмяльніцкага. Арыгінал яго захоўваецца ў архіве музея Гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў г. Мінск.

«Камандзіру атрада імя Б. Хмяльніцкага т. Бакума В., начальніку штаба атрада т. Шаўчэнка В.

Па маючыхся ў штабе брыгады вестках, немцы збіраюцца вывезці з пушчы зубраў або знішчыць іх у час адступлення. Абавязваю распрацаваць план аперацыі па іх выратаванню. За выкананне нясеце асабістую адказнасць. Даручыце гэта давераным таварышам. У групу абавязкова ўключыце М. Цішчанка, супрацьтанкавае аддзяленне Бучкова і мясцовага партызана Ахрэмчука. Аб ходзе выканання дакладвайце штотыднёва.

9.V.1944 года

Камбрыг Мартынаў».

Неабходна дабавіць, што ў гэтай аперацыі быў цяжка ранены камандзір атрада імя Багдана Хмяльніцкага Васіль Емельянавіч Бакума. Яго замяніў начальнік штаба Уладзімір Шаўчэнка.

(Працяг будзе)

# Навасады

У Беластоцкім павеце ў паўднёва-ўсходняй частцы знаходзяцца па-суседску дзве вёскі: Залешаны і Навасады. Залешаны з разваленымі платамі, з неўпарадкаванай вуліцай, з засмечанымі панадворкамі. Зусім інакш у Навасадах. Прыгожая там вуліца, — брукаваная маставая, уложаныя кравэнжнікі, рыхтуюцца сяляне да ўкладання ходнікаў. Тут і загарожы прыгожыя ды кветкі растуць у агародчыках. Якая вялікая розніца ў вёсках. А людзі, здаецца, ж такія самыя.

(мх)



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### ВЫБАРЫ

20 ліпеня ў грамадскай бібліятэцы ў Трасцянцы адбыліся выбары да грамадскага камітэта грамадскай дапамогі. Да новых улад гэтай арганізацыі былі выбраны: старшынёю — Аляксандр Кур'яновіч, а сакратаром — Юзэф Карабкевіч. Адначасова былі выбраны дэлегаты на павятовы з'езд у асобах Уладзіміра Богуша і Міколы Лук'янюка.

На гэтай нарадзе многа гаварылася аб старых людзях, якія не маюць магчымасці апрацоўваць сваёй гаспадаркі.

М. Л.
Белкі

### СЯЛЯНЕ КУПІЛІ

У першым паўгоддзі 1968 г. сяляне Гайнаўшчыны купілі: 24,5 тысяч штук цэглаў шаматовых, 114,7 тон стальных бэлек, 1890 м² сеткі на агарожу, 1450 м² шкла на вокны, 11,4 тысяч штук этэрнітавых плыт (вельмі хадлівы тавар), некалькі брамаў па 1720 зл і 2100 зл., 218 тон хлараванай вапны, 30 тон лепіку, 96 вокан, 29 тысяч штук белых і каляровых кафляў, апрача гэтага купілі папу смалаўцовую, дрот, жэльбетонныя бэлькі і г.д.

Я. М.

### НЯМА «НІВЫ» Ў КЛУБЕ

У вёсцы Кленікі (Гайнаўскі павет) існуе клуб селяніна, у якім ёсць многа розных часопісаў. Няма, на жаль, ні аднаго нумара «Нівы». Мабыць, ГС забыў зрабіць падпіску на беларускі тыднёвік. У Кленіках і аколіцы, пражываюць беларусы, яны хацелі б мець свой часопіс на роднай мове ў клубе.

Янцал
Кленікі

### КВЕТКІ

Кветкі? Калі ласка. Купіць іх можна на вуліцы ў Гайнаўцы ў Васіля Дзуна. **Ц. Я.**

## Сардэчныя тайны

**Дарагое Сэрцайка!**

Год назад я пазнаёмілася з Віктарам. Ён з суседняй вёскі. Не брыдкі хлопец, аднак кажуць, што вельмі ганарысты. Пазнаёміліся мы на фэсце ў нашай вёсцы. Ён пачаў часцей прыязджаць да мяне. Гаварыў, што мяне кахае і што са мною ажэніцца (ён мае ўжо 25 год). Я паверыла. Спачатку ён мне не вельмі падабаўся, але потым прызвычаілася і цяпер здаецца, што няма ўжо лепшага. Мае сяброўкі смяюцца з мяне і гавораць, што ён мяне не варты, але мне здаецца, што яны не маюць рацыі. Зрэшты, не ў прыгажосці рэч. Так было паўгода. Потым перастаў ездзіць да мяне Віктар. Мае сябры гаварылі, што зноў пачаў ён «хадзіць» са сваёй былой нарачонай. Я тады вельмі перажывала. Па пару месяцах, на Вялікдзень, ізноў Віктар прыехаў у маю вёску і мы сустрэліся на забаве. Перапрашаў мяне і запэўніваў, што кахае толькі мяне і ажэніцца толькі са мною. Зноў пачаў ездзіць. Апошнім часам перастаў прыязджаць. Ужо месяц часу, як я з ім не бачылася. Мая сяброўка, будучы ў яго вёсцы ў свае цёткі, даведалася, што ён зноў вярнуўся да свае нарачонай. Мне вельмі цяжка. Парай, Сэрцайка, што рабіць? Ці старацца сустрэцца з ім і канкрэтна пагаварыць, ці забыць пра яго? А мо чакаць, пакуль зноў вернецца да мяне? Чакаю адказу.

**Галіна з Гайнаўскага павета**

**Дарагая Галіна!** Разумею цябе і спачуваю. Ужо другі раз з-за яго перажываеш, таму пастарайся, каб гэта быў апошні. Гэта, відаць, ветраны хлапец: раз з адной, другі раз з другой і пэўна кожнай гаворыць, што кахае і што ажэніцца. Ужо жа ж ён не такі малады, каб так недарэчна паступаць. Перацярпі, гавораць, «час гоіць раны». Напэўна. Не старайся сустракацца з ім і не чакай яго павароту. А калі б ізноў хацеў да цябе вярнуцца, будзь разумнай і не згадзіся на тэта, ужо ж найгоршае будзе за табой, а яго ўчынкі сведчаць аб яго вартасці.

Жадаю ўсяго найлепшага табе.

**Сэрцайка**

## З жыцця вёскі Лука

### Спатканне з пракурорам

...адбылося 17 ліпеня г. г. у клубе «Рух» у вёсцы Лука, што на Гайнаўшчыне, па ініцыятыве павятовага праўлення ЗМВ. На спатканне прыехалі ваяводскі віцэ-пракурор Казімір Левандоўскі і павятовы пракурор Вацлаў Яхоўскі. Сустрэчу адкрыла кіраўнічка клуба Вера Жукоўская. Сабраліся моладзь і жыхары Лукі.

Пракуроры адказвалі на розныя пытанні сялян м. інш. адносна падзелу зямлі, спадку, купна зямлі і г.д. Апрача таго, пракурор Яхоўскі прыймаў для разгледжвання важнейшыя скаргі сялян. Спатканне прайшло ў сардэчнай атмасферы.

### Вясковыя дзяцінцы

Ад 1 ліпеня г.г. пачаліся заняткі ў дзяцінцы ў Луцэ (Гайнаўскі павет). Вядуць яго настаўніцы мясцовай пачатковай школы Ірэна Леўша і Тамара Ціванюк. Штодзень у школу збіраецца 45 дзяцей (у школе змяшчаецца дзяцінец). Дзеці абяспечаны харчамі, педагагічнай і лекарскай апекай.

Усе весела гуляюць на панадворку. Маюць многа цацак. Як некалькі гадоў таму, так у гэтым годзе, Інспектарат асветы ў Гайнаўцы прызначыў 2 тыс. зл. на цацкі і розныя забаўкі: мячыкі, возікі, конікі, лялькі, аўтамашыны і г.д. Частка гульняў яшчэ з мінулага года. Пані ходзіць з дзецьмі на Нарву, у поле, або ў лес. Дзеці загараюць на сонцы. Калі ідуць далей ад школы, забіраюць з сабой харчы.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

### НА РЭЧКУ З ПАЎЛІТРАМ

Летняя гарачыня томіць людзей. Пакупацца ў спёку ў рэчцы здорава і прыемна.

На рэчку едуць людзі і на аднаднёвы адпачынак. Напрыклад, Беласток пусцее ў спякотныя, вольныя ад працы дні. Людзі едуць на ваду. Гэтак сама і ў Бельску, і ў Гайнаўцы, і ў іншых мястэчках. І ўсюды пануе нейкі дзіўны звычай. На рэчку з сабою бярэцца шмат ежы і шмат гарэлкі. Пап'юць, паядуць ды зноў у ваду. Некаторыя так співаюцца, што ледзь ім языкі варочаюцца. Аднак лезуць у ваду, стараюцца плысці. І бываюць няшчасныя выпадкі. Людзі топяцца з-за свае дурнаты. Гэтаксама было і з Іванам Кур'яновічам з Нарвы. Працаваў ён у аддзеле геадэзіі ў Гайнаўцы. 14 ліпеня прыехалі да яго супрацоўнікі з жонкамі. Разам пайшлі на Нарву. Там добра папілі і Іван Кур'яновіч утапіўся. Не будзь ён п'яны, напэўна, так не сталася б. Жонка яго была тады ў радзільным доме ў Беластоку. Не пабачыў ён нават свайго першага нованароджанага дзіцяці. Асіраціў яго. Для жонкі і маці прынёс столькі перажыванняў.

Тэкст і фота МХ

На рэчцы Нарве, каля мястэчка Нарва.

---

На пляцоўцы шум, суматоха. Вальтэр, які толькі што падагнаў кран да лагуны, бяжыць да Глюка, памагае яму падняцца.

Немцы ў страху: лекар, за якога яны галавой адказваюць перад Абстам, пайшоў пад ваду — адзін, без страхоўкі!

Глюк скідае світэр і ныра.

Неўзабаве ён на паверхні.

— Дрэнна відаць! — крычыць ён. — Бяжы за рэспіратарам!

І зноў апускаецца.

А ў гэты час Карцаў, уладзіўшыся ў шчыліну, назірае за паверхняй лагуны. Ён бачыў, як двойчы нырай Глюк, як потым ён знік на трапе. Праз мінуту — другую немец спусціцца ўжо з дыхальным апаратам. Тады ад яго не схаваешся.

Пара ўсплываць.

Знімае рэспіратар, запіхае яго ў шчыліну. Выпускае кісларод, каб апарат не ўсплыў. Зрывае шлём.

Сільны штуршок нагамі выносіць яго далёка ўбок.

Немцы з трывогай углядаюцца на белы твар лекара. Ён усплыў, калі яго ўжо не чакалі: з'явіўся на паверхні, нешта крыкнуў, зноў апусціўся. Глюк кінуўся за ім, дагнаў на глыбіні, захлябнуўшагася, схапіў за валасы.

Карцаў ляжыць без руху. Глюк падстаўляе пад жывот калена: вядома, лекар наглытаўся вады, трэба ачысціць жалудак. Але той уздрыгвае і адкрывае вочы.

— Пранесла, — з палёгкай мармыча рыжабароды. — Што з вамі здарылася?

— Не ведаю... Упаў з трапа. Відаць глыбока: моцна сціснула вушы. Тут і пачалося.

— Спанікавалі, доктар. Вырашылі, што гінеце, — устаўляе Вальтэр. — Сарвалі шлём, скінулі апарат, пояс з грузамі — і наверх, як заяц. Так?

— Так... Я вельмі шкадую...

— «Шкадую»! — Вальтэр ківае галавой. — Утапілі рэспіратар, а нам адказваць. Што мы скажам шэфу?

— Лагуна не глыбокая, і, калі дазволіце, я сам...

— Зноў «сам»! — у лютасці крычыць Глюк. — Якая па-вашаму тут глыбіня?

— Ну, метраў пятнаццаць.

— «Пятнаццаць»! Роўна сто дваццаць метраў, будзьце вы пракляты! — Глюк поўны пагарды. — Ну, яшчэ не раздумаліся ісці на грунт?

Карцаў збянтэжана маўчыць.

— Добра. — Рыжы ледзь стрымліваецца. — Адпраўляйцеся да сябе, доктар. І ні слова шэфу аб рэспіратары — будзе і вам і мне. Зразумелі?

Карцаў устае. Апранаецца. Увайшоўшы ў тунель, затойваецца за каменем, чакае: вось-вось у лагуне з'явіцца Абст.

Мінут праз дваццаць з падземнага возера ўсплывае буксіроўшчык. За яго кармой — дзве галавы ў шлёмах. Неўзабаве прыбыўшыя на пляцоўцы. Першы з іх — Абст.

Карцаў адступае ў глыбіню тунеля. Яму здаецца, ён галіцынуе. Спадарожнік Абста — тэта афіцэр з лінкора, той самы элегантны лейтэнант Бархольм, які дапытваў Карцава.

**Працяг будзе**

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

,,Przybycie tytanów'' (włoski), 13—14. ,,Pamiętnik pani doktór'' (franc.), 15—16. ,,Hatari'' (USA), 17—18.

**Дубіны**

,,10 małych Indian'' (angl.), ,,Na frontach wojny domowej'' (radz.), 14—18.

**Нараўка**

,,Człowiek bez paszportu'' (radz.), ,,Gorące lato'' (jugosł.), 14—18.

**Нарва**

,,Fan, Fan tulipan'' (franc.), ,,Głosuję na miłość'' (jugosł.), 14—18.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Fan, Fan tulipan'' (franc.), ,,Głosuję na miłość'' (jugosł.), 14—18.

**Райск**

,,Nikt nie chciał umierać'' (radz.), ,,Skąpani w ogniu'' (polski), 14—18.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Testament gangstera (franc.), ,,Banda'' (polski), 13—16.

**Міхалова**

,,Intrygantki'' (czeski), 13—14. ,,Dzwonić Northide 777'' (USA), 15—16. ,,Miałam 19 lat'' (NRD), 17—18.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Niepokoje wychowanka Torlessa'' (NRF), 13—14. ,,Falstaff'' (hiszpański), 15—16. ,,Sobótki'' (polski), 17—18.

**Шудзялава**

,,Bemerang'' (polski), ,,Gra bez reguł'' (czeski), 14—18.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Żywot Mateusza'' (polski), ,,Film z czarującą dziewczyną'' (rumuński), 14—18.

**Новы Двор**

,,Kaukazka branka'' (radz.), ,,Ludzie w hotelu'' (USA), 17—18.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 5727

# ПЕРАСТАРАЎСЯ

Разам з намі працаваў Удодаў. Чалавек невысокага росту, галава кругленькая, як яблычак, твары рабенькі, як дзятлік, нос востранькі, як дзюбка.

Калі Удодаў па якіх-небудзь справах заходзіў да начальства, а ён заўсёды шукаў падставы, каб паказацца на вока дырэктару, дык нібыта не заходзіў, а лісою падкатваўся, а калі выходзіў з кабінета, дык нібыта сваё сляды хвастом падмятаў.

На працы ён увесь час так і лаўчыў, каб пагаварыць з дырэктарам. А той часта да нас заглядаў. Гэты дзень для Удодава быў сапраўдным святам. Ён дырэктару і ўсміхаўся, і падтакваў, і ўсё так гаварыў, каб быць на першым плане, каб здавацца самым разумным. Усе астатнія маўчалі, нібыта ў іх языкі былі прыколатыя. Гаварыў толькі Удодаў. Сыпалася з яго, як з мяшка. На любую тэму.

Тры месяцы дырэктара не было. Месяц ён прабыў па важнай справе за мяжою, месяц быў у экспедыцыі і месяц адпачываў. А тут яшчэ за тры дні да прыходу на працу дырэктара пайшоў у адпачынак начальнік нашага аддзела. Здавалася, што Удодаў аж схуднеў, пакутуючы, што няма з кім пагутарыць.

І вось надышоў той доўгачаканы дзень. Вярнуўся дырэктар. Заглянуў ён і да нас у аддзел. Удодаў адразу ж пасвятлеў.

Дырэктар, маючы на ўвазе начальніка аддзела, спытаў між іншым:

— Ну, як працуецца без начальства?

Удодаў апярэдзіў усіх. Ён відаць, меўся адказаць «працуем з патроенай энергіяй», але ў яго сарвалася:

— Цудоўна працуецца без начальства!

Дырэктар жа, які доўга адсутнічаў, прыняў гэтыя словы Удодава ў свой адрас. Ён адразу змяніўся ў твары і зусім новым тонам, мы ўсе аж падцягнуліся за сваімі сталамі, спытаў:

— Дык, кажаце, цудоўна?..

Удодаў зразумеў, што даў пудла. Ён пачырванеў, сагнуўся над сталом, ўвабраў галаву ў плечы. Аж самому дырэктару зрабілася няёмка за свой тон.

У гэты момант трэба было нешта сказаць. Але ўсе маўчалі. Нават Удодаў сядзеў, як мыш пад венікам.

Змітро Бяспалы





— Знаёмцеся, мама, гэта мой першы муж!

**САБАКА І ДРУГ**

Сабака людзям — друг.
Аб гэтым знае ўсякі.
Але бяда, як друг
Акажацца сабакам.

**ДРЭННАЯ ЖОНКА**

— Мая жонка стала нязноснай. Штоноч бегае па «кнайпах» да пятай гадзіны раніцы.

— Ого, не ведаў, што твая старая так п'е.

— Не, не п'е. Яна мяне шукае.

**ГОРКАЕ ДАВЕР'Е**

Шукаў верабейка неяк
У ястраба давер'я...
І асталася ад яго
Толькі жменька пер'я.

Б. Галюк

**НА ЗЛАДЗЕІ ШАПКА ГАРЫЦЬ**

— Добры дзень, пане дырэктар! Вельмі рад з вамі пазнаёміцца. Я столькі чуў пра вас...

— А ці мала балтаюць людзі... Але паспрабуйце даказаць!

**З-ЗА КУРЭННЯ**

— А ты з-за чаго папаў у турму? — запытаў адзін зняволены ў другога.

— З-за курэння.

— Як гэта так?

— Зацягнуўся і закашляўся, а вартаўнік прачнуўся.

**АМАТАР ТОСТАЎ**

Ён тост узняў
За поспех спраў,
Хоць кожны знаў,
Што ён да спраў
Ніколі рук не прыкладаў.



У сувязі з пераходам на другую работу.

Замежны гумар.

**У АЎТОБУСЕ**

Адна грамадзянка аглядаецца і дае поўху ваеннаму, які стаіць за ёю. Не паспеў той яшчэ апомніцца, як чалавек, які стаіць за ім, дае яму другую аплявуху. За гэтым чалавекам тое ж паўтарыў другі грамадзянін, потым — трэці і тут налятае яшчэ адзін чалавек і наносіць яшчэ адзін вельмі моцны ўдар.

Аўтобус спыніўся. У жанчыны спыталі:

— Грамадзянка, чаму вы ўдарылі ваеннага?

— Таму, што ён мяне ўшчыпнуў.

— А вы, грамадзянін?

— Бо ўшчыпнуў ён маю жонку.

— А вы!

— Бо гэта дачка мая.

— А вы?

— Бо гэта сястра мая.

— А вы завошта?

— А я проста падумаў, што змяніўся ўжо ўрад.



— Шлюбнае падарожжа?.. Гэта цікава, мы таксама.

# ВЯЧЭРНЯЯ ЛІРЫЧНАЯ

Словы П. Шыдлоўскага
Муз. В. Аўчыннікава

Вось ужо сцямнела ў полі, пацішэла,
Толькі ў небе зоркі ясныя гараць,
Ля твайго я дому ўсё хаджу нясмела,
Ой, як сэрца хоча тут цябе спаткаць.
Я такой не знаю
У сінім нашым краі.
Ад цябе нікяк вачэй не адвяду.
Слоў табе найлепшых я сказаць жадаю,
Ды бяда, што лепшых слоў тых не знайду.
Праўду скажы шчыра,
Любая дзяўчына,
Што хаваеш вочы ад мяне парой?
Веру ўсё ж у тое — прыдзе к нам хвіліна,
Што з'яднае сэрцы нашыя з табой.







*

У кабарэ адзін наведвальнік згубіў кашалёк з грашыма. Ён падняўся на сцэну і сказаў:

— Я згубіў кашалёк, у якім было сто тысяч драхм. Дам пяць тысяч таму, хто мне яго верне.

І ў той жа момант чуецца другі голас:

— А я дам дзесяць тысяч.



*

Гарадская рада Кедар Сіты (ЗША) пастанавіла замяніць назву вуліцы, на якой знаходзіцца мясцовы шпіталь. Дагэтуляшнюю яе назву «Алея Канца Падарожжа» прызналі за недалікатную для пацыентаў. Замянілі яе на «Алею Заходзячага Сонца».

*

Звяртаючыся да турыста, прыбыўшага з Англіі, грэк кажа:

— Вітаю ваш прыезд у краіну сапраўднай дэмакратыі, дзе мы маем магчымасць пагаварыць паміж сабою вельмі шчыра, не баючыся, што нас падслухаюць, калі сядзем мы ў лодку і адплывем на сярэдзіну Эгейскага мора.

*

Амерыканскі бізнесмен гаворыць прыяцелю:

— З нагоды дня нараджэння сваёй жонкі куплю я ёй вельмі прыгожыя жамчужныя каралі.

— Яна ж гаварыла, што хоча атрымаць новую аўтамашыну.

— А дзе вы бачылі, каб прадавалі фальшывую аўтамашыну.

*

Лос-Анжэлас. Нейкая прадпрыемлівая кінаактрыса Міцці Гэйнор запрапанавала свае паслугі дэмакратычнай партыі ЗША ў перадвыбарчай кампаніі. Апранутая ў экстравагантны касцюм, яна намерана выконваць танцы, якія перакананць выбаршчыкаў ў перавазе дэмакратычнай партыі. Паскольку сімвалам дэмакратаў з'яўляецца асёл, актрыса будзе выступаць у дуэце з жывым даўгавухім.

*

Аб'ява ў вітрыне парыжскага салона прыгажосці: «Вам трэба толькі змяніць у пашпарце дату нараджэння, а ўсё іншае зробім мы».



Не старайцеся рабіць дабро! Вам прыдзецца такія ўчынкі абгрунтоўваць.